І. І. Паўлоўскі, Л. Ф. Леўкіна

# Беларуская мова

Падручнік для 2 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках
Частка 1

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне,
перагледжанае і дапоўненае

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2011

УДК 811.161.3(075.2=161.3)
ББК 81.2Беи-922
П21

Р э ц э н з е н т

кафедра беларускага і рускага мовазнаўства факультэта
пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі
«Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»
(канд. пед. навук, дацэнт *В. І. Свірыдзенка*)

**Паўлоўскі, І. І.**

П21 Беларуская мова : падручнік для 2-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 1 / І. І. Паўлоўскі, Л. Ф. Леўкіна. 2-е выд., перагледж. і дап. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2011. — 128 с. : іл.

ISBN 978-985-465-822-3.

**УДК 811.161.3(075.2=161.3)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-465-822-3 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-465-821-6**



# РОДНАЯ МОВА

**1.** Разгледзьце малюнкі. Для чаго людзям патрэбна мова?










**2.** Прачытайце. Якія бываюць мовы?

**На свеце шмат розных народаў. Гэта беларусы, рускія, украінцы, палякі, немцы, французы і іншыя. У кожнага народа свая мова.**

**Мы — беларусы. Наша родная мова — беларуская.**

Спішыце апошні сказ.

**3.** Прачытайце словы. На якіх мовах яны напісаны?

**Радзіма — Родина.**

*Радзі́ма*

Запішыце беларускае слова.

**4.** Прачытайце.

**Лепш за ўсё мне на свеце мясці́на**
**тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос.**
**Бэз пад акном і на полі каліна...**
**Ціхае сонца, блакіты нябёс...**

*К. Кірэенка*

З чаго пачынаецца Радзіма?

**5.** Прачытайце сказы. Спішыце іх.

*Мова яднае людзей. Яна дапамагае дружна жыць і працаваць.*

## ВУСНАЯ І ПІСЬМОВАЯ МОВА

### Якая бывае мова?

**6.** Разгледзьце малюнкі.











Складзіце сказы і запішыце іх.



Сказанае, пачутае — гэта **вусная мова.**

Напісанае ў сшытку, надрукаванае ў кнізе, часопісе, газеце — гэта **пісьмовая мова.**

**7.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх. У вуснай ці пісьмовай мове карыстаюцца літарамі?

1. Крылаў не мае,
   але хутка лятае.




2. На белым полі
   чорныя авечкі пасуцца.




Запішыце адгадкі.

**8.** Прачытайце. Якой мовай, вуснай ці пісьмовай, вы будзеце карыстацца?

## Мой сшытак

У кожнага вучня ёсць сшытак для пісьма. На ўроках беларускай мовы настаўніца просіць вучняў разгарнуць сшыткі. Дзеці бяруць ручкі і старанна запіс-

ваюць словы — **мама, Радзіма, мір, сонца** *(Паводле В. Ткачова)*.

Спішыце выдзеленыя словы.

**9.** Разгледзьце малюнкі. Для чаго патрэбны гэтыя прылады? Якімі прыладамі для пісьма людзі карысталіся раней? А якімі карыстаюцца цяпер?



Вусна складзіце сказ са словам *камп’ютар*.

**10.** Прачытайце сказы і спішыце іх.

*Мову стварае народ. Усё лепшае застаецца ў кнігах. Мы вучымся па гэтых кнігах.*



## З чаго складаецца мова?

**11.** Разгледзьце малюнак. Да якой ён казкі?



Якой мовай вы будзеце карыстацца, расказваючы казку?

**12.** Прачытайце сказы. Звярніце ўвагу на іх афармленне.

Казкі ўзніклі вельмі даўно. Людзі перадавалі ў казках сваю мару аб добрым жыцці. А ты любіш казкі?

Спішыце сказы.

Наша мова складаецца са сказаў, а сказы — са слоў.

*У пісьмовай мове трэба:*

- ✓ кожны сказ пачынаць з вялікай літары;
- ✓ у канцы сказа ставіць або кропку, або клічнік, або пытальнік;
- ✓ кожнае слова ў сказе пісаць асобна.

**13.** Прачытайце. Як вы разумееце гэтыя словы?

**Роднае слова! З малых дзён чуем мы цябе з матчыных вуснаў. Ты нам тлумачыш усе дзівы свету.**

Спішыце.

**14.** Прачытайце словы. Складзіце з іх сказ і запішыце.

**У, дабро, казках, перамагае, зло.**



## Словы вітання



**15.** Прачытайце.

Дзень добры. Добры вечар. Добрага здароўя!

Якімі яшчэ словамі людзі вітаюцца?

### Раніца

— Добрага дня, дачушка! Пара ўставаць, збірацца ў школу.

— Добрай раніцы, мама! Я ўжо прачнулася.

— Добрага здароўя, дзядуля!

— Добрага здароўя, Волечка!

Якімі словамі Волечка прывітала маму і дзядулю? Выпішыце гэтыя словы.

**16.** Прачытайце. Для чаго існуюць словы вітання?

## Чатыры пажаданні

Добра, калі ты змалку
можаш вітаць людзей.
Раніцай: «Добрага ранку!»
І апаўдня: «Добры дзень!»
Увечары пры сустрэчы
знаёмым сказаць: «Добры вечар!»
А соннаму сонейку нанач
і ўсім добрым людзям: «Дабранач!»

*В. Вітка*

Выпішыце словы вітання.

**17.** Прачытайце. Ці правільна хлопчык зразумеў маму?

## Жарт

— Чаму ты ні з кім не вітаешся?

— Мама казала, што трэба адзін раз на дзень вітацца. Раніцай я вітаўся з дзядзькам Лявонам.

Напішыце словы, якія выкарыстоўваюцца пры вітанні.

**18.** Прачытайце прыказку. Чаму так гавораць?

Як ты да людзей, так і людзі да цябе.



**19.** Прачытайце.

Скончыліся ўрокі. Дзеці апрануліся і пачалі развітвацца.

Пеця сказаў:

— Да пабачэння, Кацярына Іванаўна.

Коля прамовіў:

— Усяго добрага.

Маша пажадала ўсім:

— Бывайце здаровы.

Іншыя дзеці гаварылі:

— Усяго найлепшага.

— Да заўтра.

— Да сустрэчы.

Як вы развітваецеся? Якія словы ўжываеце?

Напішыце словы, якія людзі ўжываюць пры развітанні.

## Праверце сябе

**1.** Як называецца наша родная мова?

**2.** Чым адрозніваецца вусная мова ад пісьмовай?



# ГУКІ МОВЫ. ЛІТАРЫ



З чаго складаюцца словы?
Якая розніца паміж гукам і літарай?

**20.** Назавіце гукі ў словах. Спішыце словы.

Мова, школа, вучань.

**21.** Падбярыце словы, якія адрозніваюцца адным гукам.

*Кот — кут,* ночы — ..., шар — ..., рака — ..., лёд — ..., раса — ... .

Запішыце словы. Падкрэсліце літары, якімі яны адрозніваюцца.

**22.** Прачытайце. Устаўце патрэбныя словы. Сказы запішыце.

Гукі мовы мы … і … .
Літары мы … і … .

бачым
вымаўляем
чуем
пішам

**23.** Прачытайце словы парамі. Звярніце ўвагу, як вымаўляюцца першыя гукі слоў.

Вецер — воблака, бяроза — бэз, Тома — Ціма.

[в] — так абазначаюць цвёрды гук.
[в’] — так абазначаюць мяккі гук.

**24.** «Збярыце» тры словы з гукаў і запішыце іх літарамі.



**25.** Прачытайце. Якія словы маюць блізкае гучанне? Назавіце іх.



1. Мама кліча Клаву піць каву.
2. Жору жораў журавінамі частаваў.

Навучыцеся правільна вымаўляць скорагаворкі.



**26.** Прачытайце. Дадайце да кожнага слова адзін гук, каб атрымалася новае слова.

*Лён — клён,* мель, рот, мех, кран.




Запішыце словы.
Падкрэсліце літары, якімі яны адрозніваюцца.

## АБАЗНАЧЭННЕ ГУКАЎ МОВЫ ЛІТАРАМІ



Як абазначаюцца гукі на пісьме?

**27.** Прачытайце. Назавіце гукі ў словах. Якімі літарамі яны абазначаны? У якім слове літар больш, чым гукаў? Якая літара не абазначае гука?

Стол, акно, столь, канапа, дыван.

Гукі мовы на пісьме абазначаюцца літарамі.

**28.** Прачытайце. Як вымаўляецца гук, абазначаны літарай ***в***, у кожным слове сказа?



Верасень верасам восень вітае.

Спішыце сказ. Як вы разумееце яго сэнс?

*дождж*

**29.** Спішыце словы.

Дзяцел, дзюба, сяджу, дзяўбе, мядзведзі, дажджы.

Якія гукі ў словах абазначаюцца дзвюма літарамі? Падкрэсліце гэтыя літары.

Гукі [дз’], [дж] на пісьме абазначаюцца дзвюма літарамі: *ураджай, дзеці, дзядуля*.

**30.** Прачытайце сказы ў патрэбнай паслядоўнасці і запішыце тэкст.

4. Пайшоў дождж.
2. Хмары навіслі над зямлёй.
3. Стала цёмна.
1. Падзьмуў вецер.

Падкрэсліце словы, у якіх ёсць гукі [дз’], [дж].



**31.** Знайдзіце словы, якія «схаваліся».



Экран, смех, кошка, рака, рыбак, пясок.

Запішыце так: *экран — кран, ...*



## За што трэба дзякаваць?

**32.** Прачытайце. За што і калі дзякуюць людзям?

Сярожа запрасіў Максімку ў госці. Бабка Мар’я згатавала ім смачны абед. Хлопцы наеліся і вылезлі з-за стала.

— Дзякуй, — сказаў бабцы Мар'і Максімка.

— Расці вялікі, — адказала бабка госцю. — А ты, Сяржа, чаму не дзякуеш?

Сярожа здзівіўся:

— Навошта дзякаваць? Я ж дома.

Але бабка Мар'я не пагадзілася:

— Дзякуй — тое слова, якое ўсе добрыя людзі кажуць. Мне дзякуй, што накарміла вас, а Максімку за тое, што прыйшоў у госці. Кожнаму трэба паважаць чужую працу, чужую ласку.

— Дзякуй, дарагая бабуля, — нарэшце сказаў Сярожа.

— На здароўе, унучак, — ласкава адказала яна *(Паводле У. Паўлава)*.

Выпішыце словы ветлівасці.

**33**. Прачытайце словы падзякі і запішыце іх.

Дзякуй!

Шчыры дзякуй!

Дзякую вам!

Вельмі ўдзячны вам!

**34.** Разгледзьце малюнкі. Раскажыце, хто каму выказвае падзяку.



**35.** Прачытайце верш. Аб чым ён?

Век дзяліся тым, што маеш, —
хлебам-соллю, казкай-краскай.
Ну а ў госці запрашаеш,
гавары ўсім: «Калі ласка!»
А з табой як тое будзе,
то за шчыры знак усякі
пакланіся добрым людзям
і скажы ім шчыра:
— Дзякуй! *(У. Паўлаў)*.

Выпішыце словы запрашэння і падзякі.

**36.** Прачытайце прыказкі. Як вы іх разумееце?

Ласкавае слова — што дзень ясны.
Добрае слова не забываецца.

Запішыце адну з прыказак па памяці.



**37.** Прачытайце. Выпішыце словы ветлівасці.

Знік аднойчы мой коцік.

Пайшоў я да суседзяў шукаць свайго Ваську.

— Добры дзень! Ці не заходзіў да вас мой коцік?

— Не, — адказвае суседка.

— Прабачце, калі ласка. Да пабачэння *(Паводле Я. Брыля)*.

Прыдумайце працяг апавядання пра тое, як хлопчык знайшоў свайго коціка.

# АЛФАВІТ



**Што такое алфавіт?**
**Калі карыстаюцца алфавітам?**

**38.** Прачытайце. Як называецца такі парадак літар?

| Літары | Назвы літар | Літары | Назвы літар |
|---|---|---|---|
| **А а** | *а* | **П п** | *пэ* |
| **Б б** | *бэ* | **Р р** | *эр* |
| **В в** | *вэ* | **С с** | *эс* |
| **Г г** | *гэ* | **Т т** | *тэ* |
| **Д д** | *дэ* | **У у** | *у* |
| **Е е** | *е* | **ў** | *у* нескладовае |
| **Ё ё** | *ё* | **Ф ф** | *эф* |
| **Ж ж** | *жэ* | **Х х** | *ха* |
| **З з** | *зэ* | **Ц ц** | *цэ* |
| **І і** | *і* | **Ч ч** | *чэ* |
| **й** | *і* нескладовае | **Ш ш** | *ша* |
| **К к** | *ка* | **ы** | *ы* |
| **Л л** | *эл* | **ь** | мяккі знак |
| **М м** | *эм* | **Э э** | *э* |
| **Н н** | *эн* | **Ю ю** | *ю* |
| **О о** | *о* | **Я я** | *я* |

**Усе літары, размешчаныя ў пэўным парадку, складаюць алфавіт.**

**У сучасным беларускім алфавіце 32 літары. Кожная літара мае сваю назву.**

**39.** Запішыце імёны дзяцей, якія пачынаюцца на першую, трэцюю і восьмую літары алфавіта.

*Алесь*, ...

**40.** Прачытайце словы. Размясціце іх у алфавітным парадку.

Месяц, герой, перамога, памяць, Радзіма, подзвіг.

**41.** Запішыце назвы гародніны ў алфавітным парадку.



**42.** Расшыфруйце словы. Для гэтага размясціце літары ў алфавітным парадку.

| | | |
|---|---|---|
| осль | наок | мтсо |

Запішыце словы.



**43.** Выпішыце са слоўніка (с. 124) з раздзела «Адзенне і абутак» словы, якія абазначаюць абутак, у алфавітным парадку.

**44.** Прачытайце. Выпішыце назвы птушак у алфавітным парадку.

**У нашым краі — Беларусі —**
**ёсць буслы, сарокі, гусі,**
**качкі, кнігаўкі, саколкі,**
**чаплі, совы, перапёлкі...**

**45.** Запішыце прозвішчы пісьменнікаў у алфавітным парадку.



**46.** Запішыце слова, першая літара якога стаіць у алфавіце за літарай ***ч***, другая — за літарай ***й***, трэцяя — перад літарай ***п***, чацвёртая — за літарай ***к***, пятая — перад літарай ***б***.

З атрыманым словам складзіце і запішыце сказ.

**47.** Прачытайце. Запішыце сказ па памяці.

**Мінск — сталіца Беларусі.**

Якія яшчэ беларускія гарады вы ведаеце? Напішыце іх назвы ў алфавітным парадку.



**48.** Прачытайце. Запішыце назвы звяроў і птушак у алфавітным парадку.

*Заяц, голуб, дзік, вожык, конь, лісіца, сава, казуля, мядзведзь, бабёр, лось, зубр, алень, жаваранак.*

# ГАЛОСНЫЯ ГУКІ. АБАЗНАЧЭННЕ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ НА ПІСЬМЕ



Чаму галосныя гукі атрымалі такую назву?

**49.** Прачытайце. Назавіце галосныя гукі ў словах. Якімі літарамі яны абазначаны?

Зоркі, луг, лес, рэха, рэчка, бабры, сябар, вёска, люстэрка.

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.



Галосных гукаў 6: [а], [і], [о], [у], [ы], [э].

Галосныя вымаўляюцца з удзелам аднаго толькі голасу.

Галосны гук утварае склад.

Для абазначэння шасці галосных гукаў ужываецца 10 літар: ***а, о, у, э, ы, і, е, ё, ю, я.***

**50.** Прачытайце. У выдзеленых словах назавіце галосныя гукі.



## Рабінка

Усе **дрэвы** голыя,
а **рабінка** ў **полымі.**
Агністыя **гронкі**
палаюць, як **зоркі.**

*Я. Крупенька*

Спішыце другі сказ. Падкрэсліце ў выдзеленых словах літары, якія абазначаюць галосныя гукі.





**51.** Разгледзьце малюнак. Чаму мастак назваў яго «Шматпавярховы дом»? Адкажыце на пытанні.

Дзе расце сасна?
Дзе зрабіла гняздо варона?
Хто жыве ў дупле?
Што зрабілі мурашкі пад сасной?
Ці ладзяць паміж сабой жыхары гэтага дома?

**52.** Прачытайце. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?

**нос — нёс** **сад — сядзь**
**лук — люк** **цэны — цені**

Запішыце словы парамі. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.



**53.** Спішыце сказы. Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

1. Мой родны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе не маю сілы! *(Я. Колас)*.
2. Люблю цябе, Белая, Белая Русь *(У. Карызна)*.

## ЛІТАРЫ *е, ё, ю, я*



Калі літары ***е, ё, ю, я*** паказваюць на мяккасць папярэдняга зычнага?

Калі літары ***е, ё, ю, я*** абазначаюць два гукі?

**54.** Прачытайце. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?

**Дзень, сёння, сябар, людзі.**

**55.** Прачытайце. Назавіце ў словах галосныя гукі. Якія гукі абазначаны выдзеленымі літарамі?

Надвор’**е**, **ю**нак, ліле**я**, шчаў**е**, з’**я**ва, паштаeasily**ё**н.

> Літары ***е, ё, ю, я*** могуць абазначаць два гукі, калі стаяць:
>
> ✓ у пачатку слова (***Ю**ра*) — [й’у];
>
> ✓ пасля галосных (*за**я**ц*) — [й’а];
>
> ✓ пасля апострафа (*пад’**ё**м*) — [й’о];
>
> ✓ пасля раздзяляльнага **ь** (*ль**е**цца*) — [й’э].

**56.** Прачытайце. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?

| | | | |
|---|---|---|---|
| мак | юнга | ёрш | абед |
| мяч | цюлень | цёмны | крэсла |
| маяк | цукар | восень | елка |

Запішыце спачатку словы, у якіх літарамі ***е, ё, ю, я*** абазначаны адзін гук і мяккасць папярэдняга зычнага.

Потым запішыце словы, у якіх літарамі ***е, ё, ю, я*** абазначаны два гукі.

**57.** Прачытайце словы. Складзіце і запішыце з іх сказ. Назавіце слова, у якім адной літарай абазначаны два гукі.

*экску́рсія*

Дзеці, лес, пайшлі, на, ў, экскурсію.



**58.** Запішыце імёны ў алфавітным парадку. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

Вера, Коля, Галя, Міша, Люба, Барыс, Андрэй.

**59.** Прачытайце словы. Выпішыце тыя, у якіх літара ***я*** абазначае два гукі.

Ячмень, **вяргіня**, ясень, бяроза, вярба, яліна, **яблыня**.

З выдзеленымі словамі складзіце і запішыце сказы.

**60.** Дапішыце сказы. Падбярыце назвы дрэў з папярэдняга практыкавання.

Стаіць у лесе зялёная … . Звесіла голле белая … . У садзе расце маладая … .

**61.** Запішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары.




П..ч, в..ска, руча..к, ..гады, м..чык, ..лачка, мал..нак.

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць два гукі.



**62.** Прачытайце. Што абазначаюць выдзеленыя літары: галосны гук і мяккасць папярэдняга зычнага ці два гукі?

Ты гуляеш з сябрамі ў футбол. Раптам мяч пакаціўся на шашу. Што ты будзеш рабіць? Пабяжыш даганяць мяч? Спыніся! Паглядзі, ці не едзе па шашы машына. Паспяшаешся — і мяч не выратуеш, і сам у бяду трапіш.

Раскажыце, дзе можна гуляць, каб пазбегнуць небяспекі.



**63.** Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць два гукі.

*Мы любім блакітныя рэкі,*
*густыя дубровы і бязмеж-*
*ныя палі. Гэта наш край.*

## ПАДЗЕЛ СЛОЎ НА СКЛАДЫ



Як даведацца, колькі ў слове складоў?

**64.** Прачытайце.



Многія любяць пахадзіць па лесе. Але часам здараецца, што чалавек заблу́дзіцца.

І тады ён кліча на дапамогу: ма-ма, та-та, Ю-ра, Кос-ця.

Словы нібы распадаюцца, дзеляцца на склады.

**65.** Прачытайце словы па складах.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| на | дах | хлеб | шпак | страх |
| ау | Зоя | рака | мова | слова |

Параўнайце колькасць галосных гукаў і складоў у словах кожнага слупка.



У кожным складзе абавязкова ёсць галосны гук.

Каб палічыць склады ў слове, трэба палічыць галосныя.

Колькі ў слове галосных, столькі і складоў:

*цень* (1 склад),
*ця-нёк* (2 склады),
*ця-нё-чак* (3 склады),
*ча-ра-па-ха* (4 склады),
*са-ра-ка-нож-ка* (5 складоў).

**66.** Прачытайце словы. Колькі складоў у кожным слове?

**Унучка, дзядуля, цётка, сястра, сын, брат, бабуля, дачка.**

Запішыце словы, падзяляючы на склады.

**67.** Змяніце словы так, каб у іх было па два склады. Запішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

***Нож — нажы*, куст, луг, сад, дом.**



**68.** Прачытайце словы і запішыце іх. Зверху над словамі лічбай абазначце колькасць складоў.

*Двор, горад, вёска, вуліца,*
*пляцоўка, нізіна, узгорак,*
*дарога, паляна, раўніна,*
*лес, поле, дождж, рака.*

**69.** Спішыце словы, падзяляючы на склады.

**Сябар**, сяброўка, сябры, ліст, лісток, дубочак, дрэва, клён, дрэўца, дождж, дожджык, сонейка.

Складзіце сказ з выдзеленым словам.

*ся́бар*

**70.** Прачытайце. Як вы разумееце гэту прыказку?

Чалавек без сябра, што дрэва без карэння.

Спішыце, падзяляючы словы на склады.

**71.** Прачытайце і раскажыце, як і чаму трэба берагчы кніжку.

## Беражыце кніжку

Бярыце кніжку чыстымі рукамі. Акуратна перагортвайце старонкі. Не загінайце старонак. Памятайце: кніжка — крыніца ведаў.

Спішыце. Абазначце націск у словах.



**72.** Прачытайце прыказкі і спішыце іх. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны галосныя гукі.

Кніжка чалавеку — што ліпа пчолцы. Кнігі чытаеш — свет адкрываеш.

## ПАДЗЕЛ СЛОЎ ДЛЯ ПЕРАНОСУ



Як падзяляюцца словы для пераносу?

**73.** Прачытайце словы, падзяляючы на склады.

Авёс, асіна, ясень, ажына, алешнік, Алена, ягада, Марыя, алень, акацыя.

Выпішыце назвы дрэў і кустоў. Падзяліце словы для пераносу. Якое слова не дзеліцца для пераносу, хоць і мае два склады? Чаму?



Пераносіць словы з аднаго радка на другі можна толькі па складах: *сшы-так, кні-га, сур’-ёзны, сур’ёз-ны.*

Нельга пакідаць на радку ці пераносіць на наступны радок адну літару.

**74.** Прачытайце. Як трэба падзяліць словы для пераносу?

Крэйда, майка, ваўкі, жоўты, аб’ява, канькі, пад’езд.



Пры падзеле слоў для пераносу ***й, ў, ь,*** апостраф (’) не аддзяляюцца ад папярэдняй літары: *чай-ка, лаў-ка, буль-ба, бар’-ер.*

**75.** Са слоў складзіце сказ і запішыце.

**Ветрык**, на, калыша, дрэўцах, лісцікі.

Выдзеленае слова падзяліце для пераносу.



**76.** Разгледзьце малюнак. Прыдумайце размову вавёркі і вожыка. Выкарыстайце ветлівыя словы.





**77.** Падзяліце словы для пераносу і запішыце.

Садоўнік, малацьба, воўна, ільняны, майстар, камп’ютар, ластаўка.



## Якія словы нельга пераносіць?

**78.** Прачытайце. Назавіце словы ў тэксце, якія падзелены для пераносу.

### Мая вёска



Да лесу прытулілася
невялікая вёсачка Ма-
лая Гаць.

Мясціны тут сапраў-
ды прыгожыя. На зялё-
ных лугах пасуцца стат-
кі. Астраўкамі сярод
лугоў і палёў параскі-
даны пералескі.

А дзецям тут раздол-
ле! Бегаюць яны летам
у бліжэйшы лясок у
грыбы і ў ягады.

Звініць усё наваколле іх галасамі *(Па-
водле А. Пальчэўскага)*.

Запішыце назву сваёй вёскі (горада) з вялікай літары. Раскажыце пра яе (яго).

Словы з аднаго склада не пераносяцца: *клас*.

Склад з адной літары не пераносіцца: ***Іван, Юлія***.

**79.** Прачытайце. Падзяліце словы на склады.

Настаўніца, крэйда, шум, урок, шафа, стол, парта, чвэрць, сшытак.

Выпішыце тыя словы, якія нельга пераносіць.

**80.** Разгледзьце малюнак.



Вусна адкажыце на пытанні.

**1. Дзе працуе сям'я? 2. Што збірае бабуля? 3. Хто ёй дапамагае? 4. Што робяць тата і сын? 5. Чым занята мама?**

**81.** Прачытайце. Запішыце сказ па памяці.

**У садзе паспелі яблыкі.**

Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.

*я́блык*



**82.** Выпішыце словы, якія нельга перанесці.

**Лось, заяц, воўк, бабёр, лінь, алень, ластаўка, гусь, ліса, верабей.**



**Як падзяліць для пераносу словы з *дз, дж*?**

**83.** Прачытайце словы. Як можна падзяліць іх для пераносу?

**Ураджай, брыгадзір, сядзіба, агароджа, тыдзень, студзень, гараджанін.**

***Дз, дж*** не раздзяляюцца пры пераносе слоў, калі яны абазначаюць адзін гук: *ня-**дзе**-ля, даж-**джы***.

**84.** Прачытайце. Назавіце словы з ***дз, дж***. Якое з іх можна падзяліць для пераносу?

Усё слабей грэе сонца. Дзьме халаднаваты вецер. Часта ідзе дождж. Птушкі адлятаюць у цёплыя краіны. Ужо да вясны не пачуеш звонкай песні жаваранка, спеваў салаўя. Высока ў неба ўзняліся гусі. Яны ляцяць на поўдзень.

Спішыце першыя тры сказы.

*надво́р’е*

**85.** Спішыце. Словы з ***дз*** і ***дж*** падзяліце на склады.

У школьным садзе вучні пасадзілі яблыні і грушы. Саджанцы добра **прыняліся**. Праз некалькі гадоў **дрэўцы** дадуць першы ўраджай.

У выдзеленых словах падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі.



**86.** Спішыце. Падзяліце словы для пераносу.

Рэдзька, ураджай, студзіць, дажджы, халадзільнік, дрожджы, сузор'е.

## НАЦІСК У СЛОВЕ



Што такое націск?
Як вызначыць націск у слове?

**87.** Прачытайце. Які склад у кожным слове вымаўляецца з большай сілай голасу?

Вецер, сонца, пшаніца, хмара, поле, рэчка, возера, каласы.

Запішыце словы, падзяляючы на склады. Падкрэсліце ў кожным слове склад, які вымаўляецца з большай сілай голасу.



***Націск*** — гэта выдзяленне голасам аднаго са складоў у слове.

Склад слова, які вымаўляецца з большай сілай і працяглаcцю, называецца ***націскным***.

**88.** Прачытайце. У кожным слове назавіце націскны склад.

Сарокі, ластаўкі, верабей, салавей, бусел, варона, шпак, сініца, зязюля, дразды.

Запішыце словы ў алфавітным парадку, пастаўце націск.

Знак націску ставіцца над літарай, якая абазначае галосны гук у націскным складзе: *бя-**ро́**-за, ра-**ка́***.

Знак націску не ставіцца над словам з аднаго склада і над літарай ***ё***.

*чацве́р*



**89.** Адгадайце загадку.

Сем братоў часам роўныя,
а імёны розныя.

Выпішыце са слоўніка (с. 120) назвы дзён тыдня. Абазначце націск у словах.

Запішыце ўсе магчымыя выпадкі пераносу слова *панядзелак*.

**90.** Прачытайце, якімі словамі можна пералічыць пяць дзён тыдня без іх назваў.

Пазаўчора, учора, сёння, заўтра, паслязаўтра.

Спішыце словы, пастаўце націск.



**91.** Спішыце словы, пастаўце націск.

Камар, матыль, павук, зоркі, **воблака**, **неба**, дожджык.

З выдзеленымі словамі складзіце сказы.

**92.** Прачытайце словы. Запомніце, як правільна іх вымаўляць.

Імя́, мале́нькі, стары́, буйны́, магазі́н, крапіва́.

Спішыце словы. Вусна складзіце з імі сказы.

**93.** Прачытайце. Параўнайце выдзеленыя словы.

**Рыба́к** налавіў **ры́бак**.
На дзвярах **за́мка** няма **замка́**.

**94.** Прачытайце. Што абазначаюць словы, аднолькавыя па напісанні?



па́ра



пара́ ў школу



па́ра



ка́пае



капа́е

Вусна складзіце сказы па малюнках.

**95.** Вывучыце верш «Зямля» на памяць.

Гляджу з захапленнем
на нашу зямлю.
У травах і красках
зямліцу люблю *(В. Жуковіч)*.

Запішыце верш па памяці. У словах пастаўце націск. Як падзяліць для пераносу слова *гляджу*?

**96.** Прыдумайце сказы са словамі *каса́* і *ка́са*.







**97.** Спішыце. Растлумачце, што абазначае кожнае з выдзеленых слоў.

**Месяц** выглянуў з-за хмар і зноў схаваўся.

Кастрычнік — **месяц** асенні, а красавік — вясновы.

*ме́сяц*



**98.** Прачытайце. Знайдзіце словы, якія аднолькава пішуцца. Што яны абазначаюць?

Мыйце рукі перад ядой!

Пры сустрэчы Віця не падаў мне рукі.

Хлопчык ужо добра стаяў на каньках, не падаў.

Спішыце. У словах, якія пішуцца аднолькава, пастаўце націск.

# ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ *о, э — а*



У якіх складах слоў пішуцца галосныя ***о, э***?
Калі замест ***о, э*** трэба пісаць ***а***?

**99.** Прачытайце словы. Вызначце націскныя склады. Якія галосныя пішуцца пад націскам?

**Жолуд, грэбень, звон, мост, моладзь, подпіс, вокны, холад, пояс, возера.**

Спішыце. Пастаўце націск у словах. Падкрэсліце націскныя склады.



Літары ***о, э*** ў словах пішуцца толькі ў націскных складах: ***го́ры, со́сны, рэ́кі.***

**100.** Прачытайце. Вызначце месца націску ў словах кожнай пары.

| | |
|---|---|
| г**о**рад — г**а**рады | дрэва — др**а**ўляны |
| д**о**ждж — д**а**жджы | цэгла — ц**а**гляны |
| ст**о**л — ст**а**лы | рэчка — р**а**чны |

Якія літары пішуцца пад націскам? Якая літара замяняе іх у ненаціскных складах?



Не пад націскам на месцы ***о, э*** ў словах пішацца ***а***: *го́ры — гара́, со́сны — сасна́, рэ́кі — рака́.*



**101.** Прачытайце.

Узняўся **моцны** вецер.

**Хлопчык** падвязаў дрэўца.

Каля Сашавага дома расла **маленькая** яблынька.

Ён ледзь не зламаў яблыньку.

Расці, яблынька!

Запішыце сказы ў такім парадку, каб атрымалася апавяданне. Пастаўце націск і падкрэсліце націскны склад у выдзеленых словах.



**102.** Прачытайце.




## Палічыце таполі

Р..слі ў п..лі
тры т..полі.
А за р..чкай —
на сем болей.

І за р..чкаю,
і ў п..лі
палічыце ўсе т..полі.

*А. Малюк*

Спішыце. Устаўце ў словах патрэбныя літары. Абазначце націск.

**103.** Змяніце словы, каб націскны склад стаў ненаціскным.

*Стрэ́хі* — *страха́*, росы — ..., сноп — ... .

*Шчэ́бет* — *шчабята́ць*, шэпт — ..., гоман — ... .

*По́шта* — *пашто́вы*, мора — ..., сэрца — ... .

Запішыце. Падкрэсліце ***о, э — а*** ў словах.



**104.** Прачытайце тэкст.

## У лесе



Дзеці пайшлі ў лес на экскурсію.

Стаміліся ў дарозе. На палянцы прыселі адпачыць на мяккі мох. Нечакана на палянку выбег вожык. Дзеці з цікавасцю назіралі за ім *(Паводле В. Ткачова)*.

*мя́ккі*

Вусна адкажыце на пытанні.

1. Для чаго служаць іголкі ў вожыка?
2. Якую карысць прыносіць вожык?

**105.** Напішыце правільна.




Еду на к..ні.



Пасуцца к..ні.



У к..зы казляня.



К..зы скубуць лісце.

**106.** Прачытайце сказы. Змяніце словы, што ў дужках, як патрабуе сэнс.

1. Цёплыя *(дождж)* шчодра паліваюць зямлю. 2. У лесе гучаць птушыныя *(голас)*. 3. Беларусь — край блакітных *(рака)* і азёр.

Спішыце сказы. Пастаўце націск у словах, якія змянілі.

# ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ *е, ё — я*



Як вызначаецца першы склад перад націскам?

**107.** Прачытайце. Назавіце галосныя, якія чуюцца пад націскам. Якімі літарамі яны абазначаны на пісьме?

Вечар, неба, дзянёк, вецер, вясёлы, бераг, зелень, цвёрды, зялёны, цёплы, звер, хваёвы.

Спішыце. Пастаўце націск у словах. У якіх словах вы не абазначылі націск? Чаму?



У беларускай мове літара *ё* пішацца толькі пад націскам: *вёска, мёд, палёт*.

**108.** Прачытайце. Якая літара прапушчана ў кожным слове? Вызначце месца націску ў словах.

Аб’..м, вяс..лка, вав..рка, пас..лак, в..ска, ц..мны, л..гкі.

**109.** Разгледзьце табліцу. Як лічацца склады перад націскам?



| Трэці склад перад націскам | Другі склад перад націскам | Першы склад перад націскам | Націскны склад | Склад пасля націску |
|---|---|---|---|---|
| | | ляс- | -ны́ | |
| | лес- | -ні- | -кі́ | |
| ле- | -са- | -ві- | -чо́к | |
| | | За- | -ле́с- | -се |

**110.** Прачытайце словы. Падзяліце іх на склады. Вызначце націскны склад.

**Зямля, вясна, мяцеліца, прыбярэжжа, свяціць, спяваць.**

Спішыце. У кожным слове падкрэсліце першы склад перад націскам.



**111.** Спішыце. У кожным слове падкрэсліце першы склад перад націскам.

**Вясёлка, ляснік, сяло, цацярук, буякі, нядзеля, пятніца.**



**Калі ў словах на месцы *е*, *ё* пішацца *я*?**

**112.** Прачытайце словы парамі. Вызначце націскны склад у кожным слове. Якая літара пішацца замест ***е, ё*** ў першым складзе перад націскам?

**в**е**рбы — в**я**рба**
**дз**е**нь — дз**я**нёк**
**зв**е**р — зв**я**рок**

**л**ё**д — л**я**док**
**в**ё**дры — в**я**дро**
**м**ё**д — м**я**довы**






**У першым складзе перад націскам на месцы *е, ё* пішацца *я*: *весела — вясёлы*. Ва ўсіх іншых ненаціскных складах пішацца *е*: *снег — снегапа́д, лёд — ледзяны́*.**



**113.** Прачытайце тэкст. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

## У вырай

Восенню дзікія гусі і качкі чародамі **ля**цяць на поўдзень. Чарадой ляцець лягчэй і ад ворагаў лепш абараняцца.

Чараду гусей лёгка адрозніць ад чарады качак. У гусей чарада, як клін. А качкі **ля**цяць шырокай дугой.



Усю зіму птушкі будуць жыць у цёплых краях. А вясной зноў вернуцца на радзіму.

На што падобная чарада гусей у палёце? Як называюць птушак, якія не пакідаюць родны край на зіму?

**114.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны? Растлумачце іх правапіс.

цень — ц..нёчак лес — л..сок
мёд — м..док лён — л..нок

Запішыце словы. Пастаўце націск. Падкрэсліце ўстаўленыя літары.

**115.** Прачытайце. Ці ведаеце вы, чаму месяц май раней называўся *травень*? Як узніклі назвы месяцаў *верасень, кастрычнік, лістапад*?

З сонцам, з ц..плымі в..трамі
на лугі ў р..се-красе
зазірнуў в..сёлы травень,
разбудзіў зв..ночкі ўсе.

*М. Чарняўскі*




Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.



**116.** Спішыце сказы, замест кропак устаўце літары ***е*** або ***я***.

Л..с — багацце нашай Радзімы.

У л..сной глушы гн..здуецца чорны бус..л.

**117.** Спішыце. Устаўце ў словах літары ***е***, ***ё*** або ***я***. Растлумачце іх напісанне.

В..ска — в..сковы, в..сна — в..сновы, з..лень — з..лёны, вец..р — в..тры, сц..на — сц..ны, сп..вы — сп..ваць, св..тлы — св..тлець.

**118.** Праверце, ці ва ўсіх словах правільна выдзелены першы склад перад націскам.

**Мядзведзь, перапынак, яліна, герой, медаль, бяроза.**

Запішыце словы, у якіх у першым складзе перад націскам пішацца ***е***. Складзіце сказы з гэтымі словамі.

*геро́й* *мяда́ль*

**119.** Знайдзіце і выпішыце «лішняе» слова.

**Вясёлы, верасо́вы, зялёны, кляно́вы.**

**120.** Спішыце. Устаўце ў словах прапушчаныя літары.

**Фарбы в..зера**

Узых..дзіць сонца. Быццам з..латым д..жджом сыпанула па з..млі. Усё навокал павес..лела і засв..цілася рознымі фарбамі. В..зера ўспыхнула сін..вой. Л..гкі в..трык варушыць **азёрную** гладзь *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Выдзеленае слова падзяліце на склады.

**121.** Прачытайце загадку і адгадайце яе.



Я з..лёная і колкая.
Я с..стра прыгожай ёлкі.
Для мяне заўжды в..сна.
А завуць мяне ... .

Спішыце загадку, устаўляючы прапушчаныя літары. Напішыце адгадку.

**122.** Прачытайце. Растлумачце напісанне ***о, э — а*** і ***е***, ***ё — я*** ў словах.

## Малюнкі восені

Х**о**раша ў **а**сеннім лесе. Пад нагамі рознакаляровы дыван. З**а**латыя ліст**о**чкі сыплюцца з б**я**рэзінак. Чырв**а**неюць гронкі рабіны. Яны надаюць лесу асаблівую



ўрачыстасць. Адны толькі сосны і елкі стаяць зялёныя *(Паводле Я. Коласа)*.



**123.** Адкажыце на пытанні.

1. Ці быў (была) ты восенню ў лесе (у парку)? 2. Як выглядаюць бярозкі? 3. У які колер апрануты рабіны? 4. Якія дрэвы не спяшаюцца скідаць убор?

## Праверце сябе

**1.** Прачытайце загадку і адгадайце яе. Назавіце галосныя гукі ў выдзеленых словах.

**Апусцелі** палі.
Хлеб у свірны* звéзлі.
Лугі пакасілі.
Стагі **завяршылі**.
Лістота лятае.
Дождж не сціхае...
Калі гэта бывае? *(І. Муравейка)*.

**Свíран* — будынак для захоўвання збожжа.

Напішыце літары, якімі абазначаецца мяккасць зычных на пісьме.

**2.** Вызначце першы склад перад націскам.

Зямля, мядовы, зялёны, звяры, янот, яліна, верабей, бялюткі, бярозка.

**3.** Спішыце сказы. Устаўце ў словах прапушчаныя літары.

У сасновым бары стукаюць дз..тлы.
Зубр — дужы зв..р.
У Белавежскай пушчы водзяцца розныя зв..ры́.

## ЗЫЧНЫЯ ГУКІ. ЛІТАРЫ, ЯКІМІ АБАЗНАЧАЮЦЦА ЗЫЧНЫЯ ГУКІ



Якая розніца паміж галоснымі і зычнымі гукамі?

**124.** Вымавіце гукі, абазначаныя літарамі.

| а, о, у, э, ы, і | б, в, г, д, ж, р, ч |
|---|---|

Пры вымаўленні якіх гукаў паветра сустракае ў роце перашкоду? Як называюцца такія гукі?

Зычны гук пры вымаўленні сустракае перашкоду: губы, зубы, язык.

Зычны гук вымаўляецца з удзелам шуму і голасу ці толькі з удзелам шуму.

У беларускай мове зычныя гукі абазначаюцца літарамі: ***б, в, г, д, ж, з, й, к, л, м, н, п, р, с, т, ў, ф, х, ц, ч, ш.***

**125.** Прачытайце, выразна вымаўляючы кожнае слова. Якімі гукамі адрозніваюцца словы ў парах?

Зорка — горка, каса — каза, хата — вата, гук — сук, дуб — зуб, лес — леў, салома — сарока.

Спішыце. Падкрэсліце літары, якімі адрозніваюцца словы.



Якія зычныя гукі ў беларускай мове абазначаюцца на пісьме дзвюма літарамі?

**126.** Прачытайце словы. Назавіце зычныя гукі ў словах.

Дарога, песня, вецер, дзяцел, поле, джала, дзень, мядзведзі.

Спішыце словы, у якіх адзін зычны гук абазначаны дзвюма літарамі.

**Зычны гук склада не ўтварае. Ён бывае ў складзе толькі разам з галосным: *му-зы-ка, спя-ва-юць*.**

**127.** Прачытайце. Вывучыце верш на памяць.

## Вечаровая песня



Ахінае* сцежкі ночка.
Дрэмлюць дрэвы і кусты.
Спі, сыночак, мой званочак,
сілы набірайся ты
*(В. Жуковіч)*.

*пе́сня*

**Ахіна́е* — ахутвае, агортвае.

Запішыце першыя два радкі па памяці.



**128.** У кожным слове замяніце першы зычны гук так, каб атрымалася новае слова. Словы запішыце.

| | |
|---|---|
| ***вожык — ножык*** | пень — … |
| шышка — … | корка — … |
| жук — … | рак — … |
| лаза — … | дуб — … |

## НАПІСАННЕ СЛОЎ З *у — ў*



Якая розніца паміж гукамі [у] і [ў]? Калі пішацца ***ў***?

**129.** Прачытайце словы. Падзяліце іх на склады. Чаму ***ў*** не ўтварае склада? Калі пішацца ***ў***?

1. Вучань, урок, пішу, вучу, падручнік.
2. Воўк, шоўк, аўторак, заўтра, будаўнік.

Запішыце словы з ***ў***.



Гук [ў] зычны. На пісьме абазначаецца літарай ***ў*** *(у нескладовае)*. Літара ***ў*** пішацца пасля галосных: *ла**ў**ка, багаты **ў**раджай, іду **ў** школу*.

**130.** Спішыце сказы. Падкрэсліце ***ў***.

**Ліса жыве ў нары.**
**Пчолы жывуць у вуллі.**

Калі пішацца ***ў***?

**131.** Прачытайце словы, падзяляючы на склады.

**Наста..нік, в..ха, дзя..чынка, пе..нік, л..г, шча..е, ка..нер, з..б, вяро..ка, сяб-ро..ка.**

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары ***ў*** або ***у.***

**132.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны?

**Ап..сцелі нівы. Змо..клі пт..шкі. Да..но не ч..вацць сала..я. З дрэ.. ападае жо..тае лісце.**

Спішыце. Устаўце патрэбныя літары.



**133.** Спішыце словы, падзяляючы іх для пераносу. (Карыстайцеся правілам на с. 36.)

**Чароўны, жоўты, жураўлік, кароўка, ваўкі, траўка.**

**134.** Змяніце словы так, каб у сярэдзіне іх было **ў**.

*Морква — моркаўка*, трава, канава, ніва, сліва, лава, дрэва.

**135.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары **у** або **ў**. Растлумачце іх правапіс.

Спяшацца на ..рок, збіраць ..раджай, едуць ... горад, пайшлі ... кіно, прыбіраюць ... пакоі, прыемна ..сміхаецца, стаіць на ..згорку, прыйшо.. ... госці.

**136.** Спішыце верш, устаўце **у** або **ў**.



**Хлеб**

Ён д..хмяны,
свежы, смачны.
К**о**жны дзень **я**го д**а**мо..
мы н**я**сём з універсама.
Хлеб — аснова ..сіх асно.. .

*М. Пазнякоў*

Растлумачце напісанне выдзеленых літар.

**137.** Змяніце словы так, каб у канцы быў гук [ў].

*Працавала* — *працаваў*, жыла, была, слухала, глядзела, чытала, вучыла.

Запішыце. Падкрэсліце ***ў***.



**138.** Спішыце сказы. Падкрэсліце ***ў***.

Прыгожая і ўтульная наша Беларусь. У кожным яе куточку ёсць адметныя* мясціны.

**Адме́тныя* — непаўторныя, непадобныя адна на адну.



**139.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце тэкст.



Свой вольны час дзеці часта бавілі* на лавачцы. Падышоў неяк дзядуля і сказаў:

— Давайце, дзеткі, пасадзім дрэўцы.

— Давайце!.. — у адзін голас адказалі дзеці.

І пачалася праца...

**Бáвіць* — праводзіць.

Раскажыце, як працавалі дзеці.
Чаму так кажуць?

Дрэўца пасадзіў — дабро зрабіў.

Спішыце прыказку. Падкрэсліце **ў**.

**140.** Спішыце тэкст. Устаўце ***у*** або ***ў***.

### Клён

На л**я**сной дарозе я ..бачы.. вырваны клёнік. Ён бы.. яшчэ жывы. Шкада мне стала дрэ..ца. Я прынёс яго дадом.. . Пасадзі.. пад **а**кном.

Клёнік ..жо вырас. З**я**лёным лісцем в**о**кны засланяе ... спёк.. .

*Паводле М. Янчанкі*

Растлумачце напісанне выдзеленых літар.



**141.** Спішыце, устаўце ***у*** ці ***ў***.

Ветрык з по..дня дыхну..,<br>
каласкі скалыхну.. .<br>
Ён па тра..цы праплы..<br>
і ў гаёчк.. засты.. *(Я. Колас)*.

## НАПІСАННЕ СЛОЎ З *і — й*



Чым адрозніваюцца гукі [і] і [й’]?<br>
Калі пішацца ***і***, а калі ***й***?

**142.** Прачытайце.

героі — герой        у маі — май<br>
ручаі — ручай        у гаі — гай

Параўнайце колькасць складоў у кожнай пары слоў. Якія гукі ўтвараюць склад?

**143.** Прачытайце. Падзяліце словы на склады. Ці ўтварае склад гук [й’]?

Майка, ручай, салавей, май, хвойка, лейцы, чайка.

Запішыце словы, падзяляючы на склады.

Літара ***й*** *(і нескладовае)* абазначае зычны гук [й’]. Ён склада не ўтварае.
Літара ***й*** пішацца пасля галосных на канцы склада: ***спа-кой, вы-рай, рой, зай-грай.***

**144.** Прачытайце верш. Выпішыце словы з ***й***, падзяліце іх на склады.

Лясы і лагчыны,
рачулка і гай —
вось наша Айчына*,
наш сонечны край.

Не ведай спачыну —
вучыся, будуй,
для шчасця Айчыны
сябе не шкадуй *(П. Броўка)*.

**Айчы́на* — Радзіма.

*Рэспу́бліка Белару́сь*

**145.** Спішыце. Устаўце ў словах ***і*** або ***й***.

Родны кра.. — у родным кра.., галасісты салаве.. — галасістыя салаў.., звонкі руча.. — звонкія руча.. .

**146.** Спішыце. Устаўце ў словах прапушчаныя літары ***і*** або ***й***.

Наша кра..на — Рэспубліка Беларусь. Яе народ заняты мірна.. праца.. . Мы любім сво.. кра.. .



**147.** Змяніце словы, што ў дужках, як патрабуе сэнс.

1. Віталік працаваў разам з *(мама)*.
2. Дзяўчынка ўвайшла ў пакой з *(кніга)* у руках.

Запішыце сказы. Падкрэсліце ***й*** і ***ў***.

**148.** Прачытайце загадку і адгадайце яе. Слова-адгадку запішыце, падзяляючы на склады і для пераносу.

У клубочку адпачывае,
колкай заўсёды бывае.
Шые яна і цыруе*,
з вушкам яна, ды не чуе.

*Ю. Свірка*

**Цыру́е* — зашывае дзірку.



**149.** Разгледзьце малюнак.



Адкажыце на пытанні.

*пыласо́с*

1. Хто прыбірае ў пакоі?
2. Што робіць дзяўчынка?
3. Што робіць бабуля?
4. Чым заняты дзядуля?
5. Хто яму дапамагае?

Раскажыце, як вы дапамагаеце бацькам.

**150.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары.

й ў

Ся..ба, пашто..ка, ча..нік, а..торак, музе.., во..к.



**151.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

За асінка.., за вярбо..
восень — рыжаю лісо.. .
Пахне жытам і раллё..
перад новаю сяўбо.. .
*В. Гардзей*

Падкрэсліце словы, у якіх літара ***ю*** абазначае два гукі.

## ЦВЁРДЫЯ І МЯККІЯ ЗЫЧНЫЯ ГУКІ



Як абазначаецца на пісьме мяккасць зычных гукаў?

**152.** Прачытайце. Параўнайце вымаўленне першых гукаў у словах кожнай пары.

Воз — вёз, сын — сінь, пара — пяро.



Зычныя гукі падзяляюцца на цвёрдыя і мяккія.

**153.** Разгледзьце малюнак.




[б] — б — [б’]
[в] — в — [в’]
[г] — г — [г’]
[з] — з — [з’]
[к] — к — [к’]
[л] — л — [л’]
[м] — м — [м’]
[н] — н — [н’]
[п] — п — [п’]
[с] — с — [с’]
[ф] — ф — [ф’]
[х] — х — [х’]




Раскажыце па малюнку пра цвёрдыя і мяккія зычныя гукі і пра тое, як яны абазначаюцца на пісьме.

**Мяккасць зычных гукаў на пісьме абазначаецца літарамі *і, е, ё, ю, я* і *ь* (мяккім знакам): *зіма, вецер, вёска, людзі, вясёлы, дзень.***

**154.** Прачытайце словы. Назавіце мяккія зычныя гукі.

Восень, бяроза, дзянёк, нябесны, раніца, любіць.

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных.

**155.** Прачытайце. Назавіце словы, якія адрозніваюцца адным зычным гукам.

1. Наляпіў Мікола з воску дзіўных цацак на ўсю вёску.
2. У малога Санькі новенькія санкі.



**156.** Прачытайце. Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў.

**Калыханка**

Спі, сыночак міленькі,
галубочак сізенькі.
Мой сыночак будзе спаць,
а я буду калыхаць.

## МЯККІ ЗНАК — ПАКАЗЧЫК МЯККАСЦІ ЗЫЧНАГА ГУКА



Як абазначыць на пісьме мяккасць зычных гукаў у канцы слова і ў сярэдзіне слова перад зычнымі?

**157.** Прачытайце. Як вымаўляецца апошні зычны гук у словах: цвёрда ці мякка?

Мароз, ветразь, агонь, сон, конь, Нёман, сталь, стул, соль, лось, лес.

Выпішыце словы, у якіх апошні зычны гук мяккі.



Літара **ь** (мяккі знак) служыць для абазначэння мяккасці зычных гукаў на пісьме: *соль*, *гаварыць*, *просьба*, *восьмы*.

**158.** Прачытайце пары слоў. Што абазначае кожнае слова?

Стол — столь, рыс — рысь, вугал — вугаль.

Спішыце. Падкрэсліце літару, якая паказвае, што апошні зычны ў слове — мяккі.

**159.** Прачытайце. Як вы разумееце выраз «вокам не абняць»?

Куды ні глянь — лясы шумяць,
цвіце за полем гай.
А поле — вокам не абняць.
І гэта ўсё — мой край *(А. Русак)*.

Назавіце ў словах мяккія зычныя гукі. Як абазначаецца іх мяккасць на пісьме? Спішыце верш.



**160.** Спішыце словы. Устаўце прапушчаныя літары.




Ячме.., пена.., дзе.., карабе.., чме.., це.., але.., сло.. .

Падкрэсліце мяккі знак разам з папярэдняй літарай.

**161.** Прачытайце словы. Назавіце мяккія зычныя гукі.

Пальма, лялька, маленькі, бабулька, канькі, дзянькі, пісьмо, шэранькі.

Спішыце словы. Падкрэсліце мяккі знак разам з папярэдняй літарай.

**162.** Прачытайце словы, якія абазначаюць рысы характару чалавека. Як абазначана мяккасць апошняга зычнага ў гэтых словах?

Акуратнасць, ветлівасць, удзячнасць, спагадлівасць, сардэчнасць, працавітасць, справядлівасць.

Запішыце словы ў алфавітным парадку.



**163.** Прачытайце. Якія рысы характару ўласцівы хлопчыку?

## Ветлівасць



Старэнькі дзядулька зайшоў у аўтобус. Свабоднага месца ў аўтобусе не было. Міхаська ветліва прапанаваў дзядулю сваё месца. Дзядуля сеў і падзякаваў хлопчыку.

Адкажыце на пытанні. Адказы запішыце.

Хто зайшоў у аўтобус?
Ці было ў аўтобусе свабоднае месца?
Хто прапанаваў дзядулю сваё месца?

**164.** Спішыце верш. Падкрэсліце ў словах ***ь*** разам з папярэдняй літарай.

З мяккім знакам — і агонь,
і далонь, і пень, і лінь.
Стане конам добры конь,
толькі мяккі знак адкінь *(А. Вольскі)*.

**165.** Прачытайце. Як абазначаецца на пісьме мяккасць зычных гукаў?

**Вольха**, яблынька, **васількі**, **цюльпаны**, ельнік.

Спішыце. Падкрэсліце ў словах літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў. У выдзеленых словах назавіце колькасць гукаў і літар.

**166.** Прачытайце загадку і адгадайце яе.



**Мале́нькі шустранькі** звярок скача з елкі на дубок.

Запішыце загадку па памяці. Выдзеленыя словы падзяліце для пераносу.

**167.** Дапоўніце сказы, замяняючы малюнкі словамі.

Міхась напісаў сябру  .

Бабуля падарыла ўнучцы  .

Тата купіў сыну  .

Як прыгожа цвітуць  !

Запішыце сказы. Словы з **ь** падзяліце для пераносу. (Карыстайцеся правілам на с. 36.)



**168.** Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць зычных гукаў.

Праходзяць цёплыя дзянькі. Жыццё павольна замірае. Усе чакаюць зімы.

*Паводле Я. Коласа*

# ГУКІ [д] І [дз’].
# ІХ АБАЗНАЧЭННЕ НА ПІСЬМЕ



Як абазначаецца на пісьме гук [дз’]?

**169.** Прачытайце. Звярніце ўвагу, як вымаўляецца ў словах [д], [дз’].

*Вада* — *у вадзе*, лядок — на лёдзе, хада — хадзіць, язда — ездзіць, брыгада — у брыгадзе, малады — маладзейшы, сады — у садзе.

*хадзьба́*

Запішыце словы. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць цвёрды зычны [д] і мяккі зычны [дз’].



У беларускай мове гук [д] цвёрды, а [дз’] — мяккі. На пісьме цвёрды зычны [д] абазначаецца літарай ***д***, а мяккі [дз’] — дзвюма літарамі ***дз***: ***дні*** — ***дзень***, ***два*** — ***дзве***.





**170.** Прачытайце словы. Якія літары пішуцца пасля ***дз***?

Дзяжурны, дзеці, дзядзька, дзядуля, дзюба, мядзведзь, дзік.

Спішыце. Падкрэсліце ***дз*** з наступнай літарай.

Пасля ***дз*** пішуцца літары ***е, ё, і, ю, я, ь***: *адзенне, дзённік, дзіва, дзюбка, дзяцел, рэдзька.* На канцы слова пасля ***дз*** пішацца ***ь***: *медзь, гладзь, ледзь.*

***Дз*** пішацца перад літарай ***в***, якая абазначае мяккі [в’]: *подзвіг, дзверы.*

**171.** Спішыце. Устаўце ў словах літары ***д*** або ***дз***.

**Радзіма**

Ра..іма — гэта зямля, на якой ты нара..іўся. Ра..іма — гэта твае ..я..ы і бацькі. Гэта народ, з якім ты жывеш. Гэта твой ро..ны ..ом.

*Паводле Г. Пачапцава*

Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***дз***.

**172.** Змяніце словы, як паказвае ўзор. Які гук абазначаецца літарамі ***дз***?

*Вада — у вадзе.*
Гняздо — … .
Прырода — … .
Холад — … .
Карагод — … .

*Завод — на заводзе.*
Агарод — … .
Града — … .
Парад — … .
Поезд — … .

Запішыце. Падкрэсліце склады з ***дз***.



**173.** Прачытайце прыказкі. Як вы іх разумееце?

1. Як навучышся, так і ве..аць бу..еш.
2. Пара..а ніколі не шко..іць.

Запішыце. Устаўце ***д*** або ***дз***.

**174.** Прачытайце. Запішыце сказ пад дыктоўку.

Як у хустачках дзяўчынкі, чырванеюць дзве асінкі.

Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***дз***.

**175.** Запішыце назвы гарадоў нашай краіны ў алфавітным парадку. Падкрэсліце ў словах ***д***, ***дз***.

Добруш, Дзяржынск, Докшыцы, Маладзечна, Гродна, Драгічын, Жодзіна, Ліда, Навагрудак.

Якія гукі абазначаюцца літарамі ***д***, ***дз***?

**176.** Прачытайце. Падзяліце тэкст на сказы.

Мядзведзь доўга блукаў па лесе нарэшце знайшоў пад дрэвам я́му з сухім лісцем мядзведзь зрабіў сабе цёплы бярлог там ён спаў усю зіму.

Запішыце тэкст. Першае слова ў сказе пішыце з вялікай літары. У канцы сказа стаўце кропку.



**177.** Прачытайце. Змяніце слова, што ў дужках, як патрабуе сэнс.

Сапраўдны сябар не пакіне ў *(бяда)*.

Запішыце прыказку.

# ГУКІ [т] І [ц’].
# ІХ АБАЗНАЧЭННЕ НА ПІСЬМЕ



Якія галосныя пішуцца пасля *ц*? Ці пішуцца пасля *т* галосныя *е, ё, і, ю, я*?

**178.** Прачытайце. Як вымаўляюцца ў словах гукі [т] і [ц’]?

ха**т**а — у ха**ц**е
бало**т**а — у бало**ц**е
кус**т**ы — кус**ц**ік
мос**т** — мос**ц**ік

Запішыце словы. Падкрэсліце ***т***, ***ц***.

Цвёрды зычны [т] утварае пару з мяккім [ц’]. На пісьме гэтыя гукі абазначаюцца літарамі ***т*** і ***ц***: *ха**т**а — у ха**ц**е, пло**т** — на пло**ц**е.*

**179.** Прачытайце словы. Змяніце іх, як паказвае ўзор.

*Жыта — у жыце.*
Палёт — ... .
Шахта — ... .
*Карта — на карце.*
Самалёт — ... .
Парта — ... .

Запішыце словы парамі. Падкрэсліце ***т***, ***ц***.

Мяккасць гука [ц’] на пісьме абазначаецца мяккім знакам ***(ь)*** і літарамі ***е, ё, і, ю, я***.

**180.** Прачытайце словы. Памятайце, што перад мяккім [в’] гук [ц’] вымаўляецца мякка.

| [ц’] | [ц’] |
|---|---|
| дзі**ц**я | **ц**вік |
| **ц**ень | **ц**вёрды |
| **ц**ёплы | **ц**вілы |
| кіп**ц**юры | **ц**віценне |
| **ц**іха | Ма**ц**вей |

**181.** Прачытайце. Дапоўніце сказы словамі. Словы змяніце, як патрабуе сэнс.

Пісьмо ляжыць у ... .
Пра настаўніцу напісалі ў ... .
Мы часта ўспамінаем аб ... .
Журавіны растуць на ... .

Запішыце.

Словы для даведкі:
*лета, канверт, газета, балота.*

**182.** Прачытайце верш. Выпішыце словы, у якіх ёсць мяккі гук [ц’]. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккасць [ц’].



Ляцяць і ляцяць
сняжынкі,
спадаюць
на ціхі дол.
Чысцюткай-чысцюткай
беллю
Заслалі палі вакол.

Хусцінкамі пухавы́мі
захуталі
плечы хвой...
Мая дарагая Радзіма,
прыгожая ты і зімой!

*П. Броўка*

**183.** Прачытайце сказы.

1. Дзьмуць халодныя **вятры**. Дзьме халодны **вецер**.
2. У нас надзейная **варта**. На **варце** стаяць пагранічнікі.

3. **Балота** ачышчае паветра. На **балоце** жывуць розныя птушкі.

Спішыце. Падкрэсліце ***т, ц*** у выдзеленых словах.

**184.** Прачытайце. Якую пару года апісвае аўтар? Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Адляталі ў цёплыя краіны птушкі. Пусцелі палі і лугі. Дрэвы змянялі свой летні ўбор на асенні — залацісты, яркі, стракаты.

Спішыце тэкст. Падкрэсліце літару ***ц*** разам з наступнай галоснай.



**185.** Складзіце сказы і запішыце іх. Выдзеленыя словы пастаўце першымі.

1. **У**, закружыліся, першыя, паветры, сняжынкі.
2. Апускаліся, палянку, ціха, на, **яны**.
3. Зайчык, пяньку, сядзеў, **на**.
4. Лапай, **ён**, сняжынкі, лавіў.
5. Дзівак, **вось**!



**186.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

Яно для ўсіх нас — добры друг,
хоць дзіваком здаецца,
што адзяе вясной кажух,
а ўвосень раздзяецца.




Днём і ноччу я іду,
ранкам вас не падвяду.
Нават тых, хто моцна спіць,
здольны хутка разбудзіць.

Спішыце адну загадку. Падкрэсліце літары, якія пішуцца пасля ***дз***.

## НЯПАРНЫЯ ЦВЁРДЫЯ ГУКІ



Чаму [дж], [ж], [ч], [ш], [р], [ц] называюць няпарнымі цвёрдымі зычнымі гукамі?

Якія галосныя пішуцца пасля літар, што абазначаюць няпарныя цвёрдыя гукі?

**187.** Назавіце прадметы. Цвёрда ці мякка вымаўляюцца ў словах першыя гукі?



**Шч**упак. **Ч**арапаха. **Р**ужа. **Ц**ыбуля. **Ж**аба. **Дж**ынсы. **Ш**ына.

Зычныя [дж], [ж], [ч], [ш], [р], [ц] — няпарныя цвёрдыя гукі. Яны не маюць адпаведных мяккіх гукаў.

**188.** Прачытайце словы. Назавіце няпарныя цвёрдыя зычныя гукі. Якія літары ўказваюць на тое, што зычныя гукі цвёрдыя?

Жывёла, шаша, жолуд, ружа, рэчка, чэрвень, дрэва, ураджай, цукерка.

Спішыце словы. Падкрэсліце літары, якімі абазначаны няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.



Пасля літар, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі, пішуцца ***а, о, у, ы, э***: *жарт, чорны, шыць, ружа, цэгла.*

**189.** Прачытайце. Якія галосныя прапушчаны?

Сш..так, Ж..ня, хлопч..к, ур..к, ш..р, р..нец, р..біна, дождж..к, ж..ўты.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

**190.** Прачытайце прыказкі. Як вы іх разумееце?

1. Хто прац..е, той і мае. 2. Будзеш прац..ваць — будуць людзі паважаць.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.



**191.** Прачытайце.

Усю ноч ішоў дождж. Раніцай выглянула сонца. Яго промні пераліваліся ў кроплях вады на дрэвах і траве.

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

**192.** Прачытайце словы. Як вымаўляюцца гукі [ц] і [ц’]?

Цела, цэлы, цукар, цюбік.

> **У беларускай мове ёсць два розныя гукі: [ц] і [ц’].**
>
> **Адзін — заўсёды цвёрды, другі — толькі мяккі.**
>
> **На пісьме яны абазначаюцца адной літарай *ц*. Адрозніць гэтыя гукі дапамагаюць літары галосных гукаў і мяккі знак: *мяцеліца, абяцаць*.**

**193.** Прачытайце. Назавіце словы, у якіх ёсць літара ***ц***. Які гук яна абазначае ў слове?

— Хто зірнуў так рана ў аконца?
— Сонца.
— Хто гуляе ўсюды на свеце?
— Вецер.
— Хто нас поіць празрыстай вадзіцай?
— Крыніца.

*С. Пацёмкін*

**194.** Прачытайце. Які гук — [ц] або [ц’] — вы чуеце ў словах? Якія літары трэба ўставіць? Чаму?

Ц..гнік, ц..нь, ц..ган, вец..р, ц..буля, коц..к, канц..рт, мац.., бац..ка.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

**195.** Прачытайце. Спішыце першыя тры сказы. Устаўце прапушчаныя літары. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.



Снягір большы за вер..б’я. На галаве ў снегіра ч..рны капялюш..к. Спінка ў яго ш..рая, а грудка ч..рвоная. Гэта птушка харчуецца насеннем дрэў.

Кароткім зімовым днём снегіры гадзінамі сядзяць на рабіне ці клёне.

Вясной снегіры робяць гнёзды ў лясным гушчары *(Паводле А. Вольскага)*.

Раскажыце аб тым, як вы дапамагаеце птушкам зімой.



**196.** Спішыце. Падкрэсліце літару, якая абазначае цвёрды [ц], адной рыскай, а літару, якая абазначае мяккі [ц’], — дзвюма.

Маладой бярозцы
павязала восень
жоўтую хусцінку
з белай павуцінкай.
*Я. Пушча*

## ЗВОНКІЯ І ГЛУХІЯ ЗЫЧНЫЯ ГУКІ



Чаму адны зычныя называюцца звонкімі, а другія — глухімі?

Як адрозніць звонкія і глухія зычныя гукі?



**197.** Прачытайце.

У Колі разбалеліся зу**б**ы.
Ён не можа есці су**п**.

Адкажыце на пытанні.

1. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?

2. Ці аднолькава вымаўляюцца гэтыя гукі?

3. Як называюцца гукі, пры вымаўленні якіх чуецца голас і шум? Толькі шум?

Зычныя гукі падзяляюцца на звонкія і глухія.

***Звонкія гукі*** — гэта гукі, пры вымаўленні якіх чуецца голас і шум.

***Глухія гукі*** — гэта гукі, пры вымаўленні якіх чуецца толькі шум.

**198.** Прачытайце словы парамі. Якімі гукамі адрозніваюцца гэтыя словы?

*Каза* — *каса*, жар — шар, голад — холад, дзень — цень, саджу — сачу, піць — біць.

Спішыце словы. Падкрэсліце літары, якімі яны адрозніваюцца.

**199.** Разгледзьце табліцу на другім форзацы і адкажыце на пытанні.

1. Якія гукі ўтвараюць пары па глухасці-звонкасці?

2. Якія гукі адносяцца да няпарных глухіх зычных гукаў?

3. Якія гукі адносяцца да няпарных звонкіх зычных гукаў?

**200.** Вымавіце гукі. Якія гукі ўтвараюць пары? Чаму ў левым і правым слупках розная колькасць пар?

| | |
|---|---|
| [б] — [п] | [б’] — [п’] |
| [г] — [х] | [г’] — [х’] |
| [д] — [т] | [дз’] — [ц’] |
| [дж] — [ч] | [з’] — [с’] |
| [ж] — [ш] | |
| [з] — [с] | |



**201.** Спішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары.

..ераг, ..іраг, ..орад, ..історыя, ..ом, ..іця, ..ыццё, ..оркі, ..ямля, ..іма.

Якія гукі абазначаюць устаўленыя літары: звонкія ці глухія? Парныя ці няпарныя? (Карыстайцеся форзацамі ў канцы падручніка.)



**202.** Выпішыце са слоўніка 3 словы, якія пачынаюцца з глухіх зычных гукаў, і 3 словы, якія пачынаюцца са звонкіх зычных гукаў.

## ПРАВАПІС СЛОЎ З ПАРНЫМІ ЗЫЧНЫМІ ГУКАМІ Ў КАНЦЫ СЛОВА



**Ці можна на слых вызначыць, якой літарай трэба абазначыць парны зычны гук у канцы слова?**

**Як праверыць напісанне слоў з парным зычным гукам у канцы слова?**

**203.** Вымавіце словы. Які гук вы чуеце ў канцы слова: звонкі ці глухі?

[п] [т] [с] [х] [ш] [ч]

**Боб, год, бэз, луг, нож, дождж.**

**204.** Прачытайце пары слоў. Параўнайце гучанне зычных у канцы слова і перад галосным.

**Сцяг — сцягі, горад — гарады, сказ — сказы, вуж — вужы, грыб — грыбы.**

**Абазначэнне на пісьме парнага зычнага гука ў канцы слова трэба правяраць.**

**Для гэтага трэба змяніць слова так, каб пасля зычнага стаяў галосны:** *суп — суп**ы**, дуб — дуб**ы**.*

**205.** Прачытайце. Як вымаўляецца апошні зычны гук у кожным слове?

Якую літару трэба выбраць для абазначэння гука? Запішыце словы.

| | | |
|---|---|---|
| ко(т/д) | слу(п/б) | ко(ш/ж) |
| дро(т/д) | мос(т/д) | хвос(т/д) |
| кола(с/з) | вера(с/з) | сно(п/б) |
| дзе(т/д) | гаро(х/г) | арэ(х/г) |

**206.** Прачытайце прыказку. Як вы яе разумееце?

Адклад не ідзе на лад.

Спішыце, падкрэсліце літары, напісанне якіх трэба правяраць.



**207.** Прачытайце словы. Змяніце іх так, каб апошні зычны вымаўляўся выразна.

*Холад* — *халады*, снег — ..., мароз — ..., дождж — ... .

Запішыце. Падкрэсліце літары ў словах, напісанне якіх трэба правяраць.



**Якія словы з'яўляюцца праверачнымі?**

**208.** Прачытайце словы. Выпішыце толькі тыя, напісанне якіх трэба правяраць. Дакажыце свой выбар.

Сказ, завод, дом, жолуд, слон, зубр, кот, ветразь.

**209.** Прачытайце. Напісанне якіх слоў трэба праверыць? Якія словы могуць быць праверачнымі?

| | |
|---|---|
| горад | голуб |
| гарады | галубы |
| гарадок | галубок |

***Праверачнае слова*** — гэта слова, у якім парны зычны гук знаходзіцца перад галосным: ***халады, плугі, лясы.***

**210.** Спішыце сказы. Устаўце прапушчаную літару.

**Коля і Каця пайшлі ў грыбы. Самы вялікі гры.. знайшла Каця. А Коля знайшоў шмат маленькіх грыбочкаў.**

Растлумачце, як вы даведаліся, якую літару трэба дапісаць у слове.



Запішыце назвы грыбоў у алфавітным парадку. (Назвы грыбоў глядзіце ў слоўніку на с. 122.)

Пастаўце ў словах націск, падкрэсліце першы склад перад націскам.

**211.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны ў словах?

*Звонкі голас (галасы)*, зялёны лу.., ласіны сле.., салодкі мё.., яблыневы са.., вялікі гарбу.., жытнёвы кола.., белы лебе..ь.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. У дужках напішыце праверачныя словы.

**212.** Прачытайце. Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку.

На дварэ лютуе мароз. Лёд скаваў рэкі. Белай коўдрай лёг пушысты снег.

Падкрэсліце ў словах зычныя, напісанне якіх трэба правяраць.



**213.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Кругі — кру.., шалашы — шала.., грузы — гру.., дразды — дроз.., масты — мос.., гаражы — гара.. .

# ПРАВАПІС СЛОЎ З ПАРНЫМІ ЗЫЧНЫМІ ГУКАМІ Ў СЯРЭДЗІНЕ СЛОВА



У якіх выпадках правяраецца напісанне парных зычных у сярэдзіне слова?

Як гэта рабіць?

**214.** Прачытайце. Як вымаўляюцца зычныя, абазначаныя выдзеленымі літарамі? Звярніце ўвагу на тое, які гук наступны за парным зычным.

Бяро**з**кі, мала**ц**ьба, гры**б**кі, сырае**ж**кі, яга**д**кі, ка**с**ьба, ду**б**кі.

**215.** Прачытайце сказы. З якой яны казкі?

Вырасла рэ**п**ка вялікая-вялікая. Дзе**д**ка за рэ**п**ку, ба**б**ка за дзе**д**ку. Цягнуць, цягнуць — выцягнуць не могуць. Паклікаў дзедка бабку.

Назавіце гукі, якія абазначаны выдзеленымі літарамі. Як праверыць напісанне слоў з парнымі звонкімі і глухімі гукамі?

**216.** Прачытайце. Напісанне якіх літар трэба праверыць? Выберыце праверачныя словы.

Рыбка *(рыба, рыбкі, рыбакі)*.
Казка *(казкі, ка́зачкі, казачнік)*.
Сцежка *(сцяжынка, сцежкі, сцежачка)*.
Міска *(міскі, місачкі)*.

Запішыце словы разам з праверачнымі. Падкрэсліце літары, напісанне якіх вы праверылі.

**217.** Прачытайце. Якія літары вы ўставіце? Падбярыце праверачныя словы.

Пту(ж/ш)ка, кру(ж/ш)ка, вё(з/с)ка, ба(дз/ц)ька, дзя(дз/ц)ька, паво(з/с)ка.

Запішыце словы.

**218.** Спішыце сказ. Устаўце прапушчаныя літары. У дужках запішыце праверачныя словы.



Жураўлі ляцяць (...) ні..ка — зіма (...) блі..ка.



**219.** Прачытайце. Прыдумайце працяг казкі.

## Хмарка

Жыла-была маленькая хмарка. Аднойчы яна праплывала ні..ка над дзіцячым са..ком. Там дзеці пускалі сонечных зайчыкаў...

Спішыце пачатак казкі. Устаўце прапушчаныя літары. Падбярыце праверачныя словы.

**220.** Прачытайце. Якія літары прапушчаны? Падбярыце праверачныя словы.

Лы..ка, бу..ка, дзя..ька, ука..ка, паво..ка, паду..ка, ло..ка.

Запішыце словы па ўзоры. Падкрэсліце літары, якія вы ўставілі.

У з о р: *загадаць — загадка*.

**221.** Прачытайце словы. Якія гукі «згубіліся»? Якімі літарамі вы іх абазначыце? Запішыце словы.

Сало..кі, лё..кі, ні..кі, блі..кі, рэ..кі.

**222.** Прачытайце. Для чаго, на вашу думку, патрэбны бібліятэкі?

### Бібліятэка

Бібліятэка — гэта горад кніг. А стэлажы — вуліцы гэтага гара(д/т)ка. Кожная кні(ж/ш)ка жыве на сваёй палічцы. Вось тут жывуць ка(з/с)кі. Побач пасяліліся прыка(з/с)кі, прымаўкі, зага(д/т)кі.

А ці ведаеш ты, адкуль кні(ж/ш)кі ўзяліся?

Выпішыце словы з парнымі звонкімі і глухімі зычнымі. Падбярыце праверачныя словы.

*бібліятэ́ка*

**223.** Прачытайце. Выберыце ў дужках словы, якія з'яўляюцца праверачнымі.

Птушка — *(птушачка, птушкі)*, бярозка — *(бярозы, бярозкі)*, градка — *(градкі, града)*, хатка — *(хаткі, хата)*, чародка — *(чародкі, чарада)*, лапка — *(лапа, лапкі)*.

Запішыце словы парамі па ўзоры.

Узор: *птушачка — птушка.*



**224.** Прачытайце.

Прышчэ..ка, ба..ка, рэ..ка, ша..ка, галу..ка, ла..ка, гу..ка, жа..ка.

Дзе ***б***, дзе ***п*** тут? — Вось падказка:
змяняйце словы, калі ласка.

Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

## ПАДОЎЖАНЫЯ ЗЫЧНЫЯ



Як абазначаецца падаўжэнне зычных на пісьме?

**225.** Прачытайце пары слоў. Параўнайце вымаўленне зычных. Якія гукі тут падоўжаныя?

Жы**ць** — жы**ццё**, пала**з**ы — пало**ззе**, навока**л** — навако**лле**.

**226.** Прачытайце словы. Гукі, абазначаныя дзвюма аднолькавымі літарамі, вымаўляйце як адзін падоўжаны гук.

Кало**ссе**, мя**кк**і, узбярэ**жжа**, зацi**шша**, насе**нне**, раздо**лле**, бага**цце**, сме**цце**, лама**чча**, вучэ**нне**.



**227.** Разгледзьце малюнак. Раскажыце, як трэба пераходзіць вуліцу.



Прачытайце тэкст. Знайдзіце словы з падоўжанымі зычнымі.

Святлафор на скрыжаванні
свеціць ноччу, днём і ўранні.
Усе глядзяць на святлафоры:
пешаходы і шафёры.

**228.** Прачытайце словы. Правільна вымаўляйце падоўжаныя зычныя.

Карэнне, вуголле, пытанне, тлумачэнне, крылле, каменне, Палессе.

Запішыце словы ў алфавітным парадку.

Падкрэсліце літары, якімі абазначаны падоўжаныя зычныя.

Растлумачце напісанне галосных ***о, э — а*** ў словах *корань — карэнне*.

> Зычныя гукі [з’], [с’], [дз’], [ц’], [л’], [н’], [ж], [ч], [ш] паміж галоснымі ў словах могуць падаўжацца.
>
> Падоўжаныя зычныя гукі на пісьме абазначаюцца дзвюма літарамі: *жы**цц**ё, насе**нн**е, падаро**жж**а*.
>
> Падоўжаны гук [дз’] абазначаецца літарамі ***ддз***: *асяро**дд**зе, су**дд**зя*.

**229.** Складзіце сказы з прапанаваных слоў.

Рыгорка, зада..е, добра, падрыхтаваў, дамашняе.

Хлопчык, тлумачэ..е, уважліва, настаўніка, слухае.

На, адказаў, усе, правільна, Рыгорка, пыта..і.

Запішыце сказы, замест кропак устаўце патрэбныя літары. Успомніце правіла напісання ***ў***.



**230.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары.

Гук падоўжаны — не забывайце —
праз дзве літары перадавайце:
жы..ё, ра..я, кало..е, ра..е,
бага..е, збо..а,назіра..е.




**231.** Прачытайце прыказкі. Як вы іх разумееце? Якія гукі ў словах вымаўляюцца падоўжана?

Праца — крыніца бага..я.
Не збярэш з поля каме..я, не атрымаеш насе..я.

Спішыце прыказкі. Устаўце прапушчаныя літары і падкрэсліце іх.

**232.** Прачытайце. Назавіце словы з супрацьлеглым значэннем.

| | |
|---|---|
| спакой | зацішша |
| шум | пытанне |
| адказ | хваляванне |

Запішыце словы парамі. Падкрэсліце падвоеныя літары.

У з о р: *разлука — спатканне.*

**233.** Прачытайце. Падбярыце па ўзоры словы з падоўжанымі зычнымі.

*Чытаць — чытанне*, маляваць, купаць, спаткаць, вязаць.
*Шыць — шыццё*, выць, мыць, жыць.

> Словы з падоўжанымі зычнымі можна пераносіць так: *чыта**н-не***, *чыта-**нне***, *вясе**л-ле***, *вясе-**лле***, *стаго**д-дзе***, *стаго-**ддзе***.

**234.** Прачытайце. Назавіце словы з падоўжанымі зычнымі. Як вы падзеліце іх для пераносу?

Збажына — збожжа, лес — узлессе, каласы — калоссе, палазы — палоззе, цішыня — зацішша, бераг — узбярэжжа, убор — убранне.

Выпішыце словы з падоўжанымі зычнымі, падзяліце іх для пераносу.



**235.** Спішыце словы, устаўляючы патрэбныя літары.

Адзе..е, разво..е, заці..а, навако..е, зада..е, жы..ё.






## Віншаванне

**236.** Прачытайце.

*свя́та*

### Дзень нараджэння




Колю споўнілася восем гадоў. На дзень нараджэння прыйшлі сябры. Яны прынеслі падарункі.

Дзяўчынкі падарылі цікавую кнігу, а хлопчыкі — шахматы. Дзеці слухалі музыку, спявалі, гулялі. Пасля пілі чай з тортам. Усім было весела.

Калі людзі віншуюць адзін аднаго?



**237.** Раскажыце пра сябе. Для гэтага адкажыце на пытанні.

1. Калі ў цябе дзень нараджэння?
2. Каго ты запрашаў на мінулы дзень нараджэння?
3. Чым запомніўся табе дзень нараджэння?

**238.** Разгледзьце віншавальную паштоўку. З чым віншуе Галя сваю сяброўку?




Падпішыце віншавальную паштоўку свайму сябру (сяброўцы).



**239.** Прачытайце верш. Вывучыце яго на памяць і раскажыце маме.

Віншую са святам  
цябе, дарагая!  
З табою шчаслівы  
заўсёды я.

Моцна і шчыра  
цябе абдымаю,  
добрая, мілая  
мама мая.

*У. Місун*

## АПОСТРАФ І РАЗДЗЯЛЯЛЬНЫ МЯККІ ЗНАК



На што паказваюць апостраф (’) і раздзяляльны мяккі знак (ь) на пісьме?

Калі пішацца апостраф?

**240.** Прачытайце словы, звярніце ўвагу на вымаўленне гукаў, абазначаных выдзеленымі літарамі.

[э] — [й’э]

на двар**э** — надвор’**е**

[о] — [й’о]

л**ё**н — паштальь**ё**н

Апостраф і раздзяляльны мяккі знак папярэджваюць аб прысутнасці ў слове гука [й’].

**241.** Прачытайце. Як вымаўляюцца гукі, абазначаныя выдзеленымі літарамі: цвёрда ці мякка?

**П**есня — **п**’е, **б**егаць — **б**’е, **п**яць — **п**’яўка, з**б**іраць — вера**б**’і, па**р**ог — звя**р**’ё, **в**угал — інтэр**в**’ю.

Запішыце словы з апострафам.

Апостраф ставіцца пасля літар, якія абазначаюць цвёрдыя зычныя гукі, перад ***е, ё, ю, я, і***, калі яны абазначаюць гукі [й’э], [й’о], [й’у], [й’а], [й’і]: *пер’**е**, пад’**ё**м, камп’**ю**тар, з’**я**ва, вераб’**і**ны.*

Пасля ***ў*** *(у нескладовага)* апостраф не ставіцца: *здаро**ўе**, сала**ўі**, кусто**ўе**, міжрадко**ўе**.*

**242.** Прачытайце сказы. Выдзеленыя словы параўнайце па вымаўленні і па напісанні.

1. Дар'і няма яшчэ **сямі** гадоў.
2. Усе ў нашай **сям'і** любяць жывёл.

**243.** Прачытайце. У якіх словах трэба паставіць апостраф?

аб..ед — аб..езд
зор..ы — сузор..е
вераб..ей — вераб..і
камп..от — кап..ё
сем..я — сям..я

Запішыце словы з апострафам.



**244.** Прачытайце тэкст.

Павеялі паўночныя халодныя вятры. Многія птушкі паляцелі ў вырай. А вераб'і цёплае жыллё пачалі шукаць. Агледзелі шпакоўню: вялікая хатка, на ўсю сям'ю хопіць. Уцяплілі яе курыным пер'ем. Цяпер не страшна ім марознае надвор'е *(Паводле В. Гурскага)*.

Выпішыце словы з апострафам.



## Калі пішацца раздзяляльны мяккі знак (ь)?

**245.** Прачытайце. Як вымаўляюцца гукі, абазначаныя выдзеленымі літарамі: цвёрда ці мякка?

Пашта**ль**ён, **ль**е, гры**ль**яж, Марэ**сь**еў, Ка**сь**янаў, Ве**нь**ямін.

Спішыце. Падкрэсліце ў словах літары, якімі абазначаны гукі [й’э], [й’о], [й’а].

> Раздзяляльны мяккі знак ***(ь)*** пішацца пасля літар, якія абазначаюць мяккія зычныя гукі, перад ***е, ё, ю, я, і,*** калі яны абазначаюць гукі [й’э], [й’о], [й’у], [й’а], [й’і]: *атэ**ль**е, мі**ль**ён, на**ль**ю, **Нь**ютон, Генадзь**е**віч, Арсе**нь**еў*.

**246.** Прачытайце загадку. Напішыце адгадку.




Не ў бары расце — у садзе,
як маленькі парасон,
грыб няхітры, вельмі смачны,
з гучнай назвай ... *(М. Пазнякоў)*.

**247.** Прачытайце. Выдзеленыя словы параўнайце па вымаўленні і па напісанні.

1. Я **палю** моркву.
2. Я **палью** моркву.



Запішыце сказы пад дыктоўку.

**248.** Прачытайце. Што абазначае ў словах мяккі знак: мяккасць папярэдняга зычнага ці раздзельнае вымаўленне зычнага і наступнага гука [й']?

Каменьчык, Ульянаў, Кузьма, бульба, вузенькі, мільярд, барацьба, парцьера, восьмы.

Выпішыце словы з раздзяляльным мяккім знакам.

**249.** Прачытайце сказы. Выпішыце словы з раздзяляльнымі знакамі.

1. Дзьмулі моцныя вятры, гналі з узмор'я хмары.
2. У паднябессі льецца звонкі галасок жаваранка.

**250.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх. Якія раздзяляльныя знакі прапушчаны ў словах?

1. Адзін л..е, другі п..е,
трэці зелянее ды расце.





2. Хто мяне заб..е, той
сваю кроў прал..е.

Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя раздзяляльныя знакі.



**251.** Спішыце. Падкрэсліце слова з раздзяляльным ***ь***.

Эх, як весела бруіцца,
льецца, булькае вадзіца.

*А. Александровіч*

**252.** Разгледзьце малюнкі.





Складзіце невялікае апавяданне.
Выкарыстайце словы: *вераб'і, пер'е*.

**253.** Прачытайце загадку і адгадайце яе. Назавіце гукі ў выдзеленым слове.



Ненасытны гэты з'есці
Можа ўсё на свеце.
А **нап'ецца** ён вады —
памірае ўміг тады.
*М. Пазнякоў*

Спішыце загадку. Напішыце адгадку.

**254.** Прачытайце. Якія раздзяляльныя знакі трэба паставіць у словах?

Аб..ява, аб..езд, Васіл..евіч, біл..ярд, кап..ё, надвор..е, пад..ём, л..ецца, б..ём, Дар..я, Арсен..евіч, Іл..ін, Афанас..евіч, вераб..і, бур..ян, сур..ёзны.

Выпішыце словы, у якіх трэба ўставіць раздзяляльны мяккі знак.



**255.** Прачытайце. Выпішыце словы з апострафам і раздзяляльным мяккім знакам.

## Наша сям'я

У нас дружная сям'я. Мой бацька Ілья Пятровіч працуе на трактарным заводзе. Маму завуць Ганна Юр'еўна. Яна працуе бібліятэкарам. Я вучуся ў школе. Сястрычка Надзейка яшчэ малая. Яна ходзіць у дзіцячы садок. Вечарамі мы збіраемся ў вялікім пакоі і чытаем.

Падрыхтуйцеся расказаць пра сваю сям'ю.

## Праверце сябе

**1.** Спішыце словы. Падкрэсліце літары, якімі яны адрозніваюцца.

Ліпа — лапа, Рома — рама.

**2.** Размясціце словы ў алфавітным парадку.

Журавіны, суніцы, брусніцы, ажыны, агрэст, буякі.

**3.** Колькі складоў у словах?

Алег, Юлія, Яніна.

Якія з гэтых слоў нельга пераносіць? Чаму?

**4.** Назавіце словы, у якіх націск падае на другі склад.

Крэйда, дошка, званок, вучаніца, ранец, настаўнік.

**5.** Назавіце ў словах першы склад перад націскам.

Зямля, мяцеліца, беражок.

**6.** Якую літару трэба ўставіць замест кропак? Чаму?

Л..нок не любіць л..ноты.

**7.** Прачытайце. Якімі літарамі абазначана мяккасць зычных у словах? Напісанне якіх слоў патрабуе праверкі?

Карагод завірух дзень і ноч лятае.
Белы снег, быццам пух, далі замятае.

*У. Мазго*

**8.** Да якіх слоў няправільна падабраны праверачныя словы? Знайдзіце памылкі.

Птушка — птушачка, хатка — хаткі, дубкі — дубок, градкі — градка.

**9.** У якіх словах прапушчаны апостраф, а ў якіх — раздзяляльны мяккі знак?

Пад..езд, л..ецца, Дзям..ян, камп..ютар, медал..ён.

# СЛОЎНІК

## Сям’я

бабу́ля
брат
дачка́
дзяду́ля
ма́ма
праба́бка

пра́дзед
сын
сястра́
та́та
уну́к
уну́чка

## Школа

ало́вак
ву́чань
кані́кулы
клас
кні́га
наста́ўніца

падру́чнік
пена́л
перапы́нак
сшы́так
уро́к
чвэрць

## Дні тыдня

панядзе́лак
аўто́рак
серада́
чацве́р

пя́тніца
субо́та
нядзе́ля

## Назвы месяцаў

сту́дзень
лю́ты
сакаві́к
красаві́к
май
чэ́рвень
лі́пень
жні́вень
ве́расень
кастры́чнік
лістапа́д
сне́жань

## Гарады Беларусі

Бабру́йск
Бара́навічы
Брэст
Ві́цебск
Го́мель
Гро́дна
Жо́дзіна
Івацэ́вічы
Магілёў
Мазы́р
Мінск
Пінск
По́лацк
Салігу́рск

## Рэкі і азёры Беларусі

Брасла́ўскія азёры
Бярэ́зіна
Гары́нь
Дзвіна́
Дняпро́
На́рач
Нёман
Пры́пяць
Сві́слач
Сві́цязь

## Агароднiна i садавiна

агуро́к
бура́к
капу́ста
кроп
мо́рква
памідо́р
рэ́дзька
сала́та
цыбу́ля
чарэ́шня
часно́к
я́блык

## Ягады i грыбы

агрэ́ст
ажы́ны
апе́нька
бараві́к
брусні́цы
буякі́
жураві́ны
лісі́чка
малі́ны
масля́к
мухамо́р
падасі́навік
падбяро́завік
ры́жык
суні́цы
сырае́жка
чарні́цы
шампіньён

## Зерневыя культуры

авёс
грэ́чка
жы́та
про́са
пшані́ца
ячме́нь

## Дрэвы і кусты

але́шына (во́льха)

арэ́шына (ляшчы́на)

асі́на

бяро́за

ві́шня

вярба́

гру́ша

дуб

е́лка

клён

лаза́

лі́па

малі́на

парэ́чкі

рабі́на

сасна́

слі́ва

я́блыня

## Дзікія жывёлы

але́нь

бабёр

барсу́к

вавёрка

во́жык

воўк

дзік

за́яц

зубр

казу́ля

лісі́ца

лось

мядзве́дзь

рысь

## Дзікія птушкі

аўся́нка
бу́сел
варо́на
верабе́й
го́луб
дзя́цел
дрозд
жа́варанак
жураве́ль
зязю́ля
каршу́н
крыжадзю́б
ла́стаўка
сава́
салаве́й
саро́ка
сі́ніца
снягі́р
со́кал
шпак

## Адзенне і абутак

бо́ты
валёнкі
кажу́х
касцю́м
кашу́ля
ку́ртка
паліто́
сарафа́н
спадні́ца
суке́нка
ту́флі
хала́т
чараві́кі
штаны́

# ЗМЕСТ

Родная мова . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
Вусная і пісьмовая мова . . . . . . . . . 5
*Урок ветлівасці «Словы вітання»* 10
*Праверце сябе* . . . . . . . . . . . . . . 12

Гукі мовы. Літары . . . . . . . . . . . . . 13
Абазначэнне гукаў мовы літарамі . . 15
*Урок ветлівасці «За што трэба дзякаваць?»* . . . . . . . . . . . . . . . . 17
Алфавіт . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 21
Галосныя гукі. Абазначэнне галосных гукаў на пісьме . . . . . . . . . . . . 25
Літары ***е, ё, ю, я*** . . . . . . . . . . . . . . . 27
Падзел слоў на склады . . . . . . . . . . 31
Падзел слоў для пераносу . . . . . . . . 35
Націск у слове . . . . . . . . . . . . . . . . 41
Правапіс галосных ***о, э — а*** . . . . . . . . 46
Правапіс галосных ***е, ё — я*** . . . . . . . . 50
*Праверце сябе* . . . . . . . . . . . . . . 57

Зычныя гукі. Літары, якімі абазначаюцца зычныя гукі . . . . . . . . . . 58
Напісанне слоў з ***у — ў*** . . . . . . . . . . 61
Напісанне слоў з ***і — й*** . . . . . . . . . . . 66
Цвёрдыя і мяккія зычныя гукі . . . . 70
Мяккі знак — паказчык мяккасці зычнага гука . . . . . . . . . . . . . . . . . 73
Гукі [д] і [дз’]. Іх абазначэнне на пісьме 78
Гукі [т] і [ц’]. Іх абазначэнне на пісьме 82
Няпарныя цвёрдыя гукі . . . . . . . . . 86
Звонкія і глухія зычныя гукі . . . . . 91
Правапіс слоў з парнымі зычнымі гукамі ў канцы слова . . . . . . . . . . . 94
Правапіс слоў з парнымі зычнымі гукамі ў сярэдзіне слова . . . . . . . . 99
Падоўжаныя зычныя . . . . . . . . . . . 103
*Урок ветлівасці «Віншаванне»* . . 108
Апостраф (’) і раздзяляльны мяккі знак (***ь***) . . . . . . . . . . . . . . . . . 110
*Праверце сябе* . . . . . . . . . . . . . . . 118

Слоўнік . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 120

Вучэбнае выданне

**Паўлоўскі** Іван Іванавіч
**Леўкіна** Лідзія Фёдараўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Падручнік для 2 класа
агульнаадукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках
Частка 1

2-е выданне,
перагледжанае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Брыкет*
Карэктары *К. В. Шобік, Н. М. Кумагер*

Падпісана ў друк 10.03.2011. Фармат $70 \times 90^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,36.
Ул.-выд. арк. 3,23 + 0,47 форз. Тыраж 21 600 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛВ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |